


Разьдзел III-ці.

1. Колькі зубоў у чалавека?
2. Калі бывае самы кароткі дзень у гаду?
3. Чаму рака зімой не замярзае да дна?
4. Што такое юнат?
5. Колькі літар мае беларускі альфабэт?
6. Ці можа сьвітка грэць чалавека?
7. Хто зьяўляецца Народным Камісарам Асьветы Беларусі?
8. Дзе вы сустракаліся з Ракам-Вусачом?
9. Хто напісаў першы беларускі раман?
10. Хто такі быў Войкаў?
11. Як называлася піонэрская газэта, якая выдавалася ў Беларусі да часопісі „Бел. Піонэр"?
12. Чаму на чыгунцы рэйкі кладуцца ня шчыльна адна ля другой?
13. Які пісьменьнік напісаў твор „Хижина дяди Тома"?
14. Ці мае вада колер?
15. Чым карысныя для нас шпакі?
16. Дзе жыве зімою вожык?
17. Чаму мядзьведзь ня ўмірае за зіму ад голаду?
18. У якім горадзе радзіўся Ленін?
19. Якая птушка ня робіць сабе гнязда, а кладзе свае яйкі ў чужыя гнёзды другіх птушак?
20. Якую частку земнай кулі займае Саюз ССР?

## Адказы на 2-гі разьдзел.

1. Гэта каляровы адбітак сонечнага сьвету ў кроплях вады. Бывае ў часе дажджу. Можна і штучна ўтвараць радугу: пырснуць вадой перад сонцам.
2. Лягушка жыве ў мокрых мейсцах (вада, балота), а жаба можа жыць і на полі.
3. Сельска-гаспадарчая машына для падзелу зярнят на сарты.
4. Зацьменьне сонца бывае ад таго, што між зямлёй і сонцам становіцца месяц, зацьменьне месяца ад таго, што зямля становіцца паміж сонцам і месяцам і цень ад зямлі падае на месяц.
5. Невялікі ліставы лес с пераважнасьцю кляноў і дубоў.
6. Каля пяцёх мільёнаў.
7. Ад руху паветра: паветра цяжэйшае, больш густое заўсёды рухаецца ў бок меншага супраціўленьня—радзейшага і лягчэйшага паветра.
8 Сталь больш загартавана і ня гнецца так, як жалеза.
9. У 1861 г.
10. Стравус.
11. Ад рымскага грамадзяніна Спартака, які адважна і харобра ўсё свае жыцьцё змагаўся за волю бедных людзей.
12. У Парыжы у 1871 г., існавала 72 дні.
13. З зямлі (капаецца) і з вады (салёных вазёр і марэй).
14. Бо за лета жыта не пасьпявае вырасьці: за восень і вясну жыта зможа стала раскарчавацца, умацавацца ў зямлі.
15. Зябляць поле на зіму (няглубокае ворава), аруць звычайна больш глыбока і пад пасеў.
16. У Віцебску.
17. Форпост організуецца ў школе і аб'яднае ў сабе піонэраў з некалькіх атрадаў, што вучацца ў гэтай школе, атрад організуецца пры ячэйцы.
18. На поўначы Саюзу ССР у Ледавітым акіяне.
19. Сузор'е, якое злучае ў сабе 7 зорак.
20. З цукровай морквы і з касьцей.

---

## Зьмест.


1. Да ўсіх піонэрскіх вясковых атрадаў.
2. Шакал Ціто—апав. *Э. Сэтон-Томпсона*.
3. Добраму агароду—добры догляд—апав. па *С. Антошыну*.
4. Петрык Цыганёнак—верш *Ю. Таўбіна*.
5. Для натуралістых ёсьць работа.
6. Маеш час—папробуй зрабіць.
7. Наша жыцьцё.
8. Мы протэстуем супроць зьдзеку.
9. Акцябратам для чытаньня: а) Сны зайца—верш *Астапенкі*, в) Янкава пакаяньне—апав. *А. Цітавай*.
10. Як хто піша апавяданьні - арт. *А. Я.*
11. Што чытаць.
12. Аб усім патроху.
13. Падумай.
14. Аўтолінogравюра вокладкі мастака *Вало*.


---


Рэдколегія: **АДЗІНЕЦ М., БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., ЯКІМОВІЧ А.**

Адказны рэдактар **А. ПЯКАРЧЫК.**

*Год выданьня 4-ы.* **Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!**




**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 6** **САКАВІК** **1928 г.**

# ДА ЎСІХ ПІОНЭРСКІХ ВЯСКОВЫХ АТРАДАЎ.

Комуністычная партыя, комсамол, саветы і працоўнае сялянства заняты цяпер вельмі важнай і вялікай працай: яны праводзяць пасеўную кампанію. Кожны піонэратрад павінен правесьці ў час пасеўнай кампаніі гэткую працу:

1. Паставіць пытаньне на сходах атраду і зьвеньняў аб значэньні пасеўнай кампаніі. *Кожнаму піонэру даручыць расказаць аб гэтым у сваёй сям'і.*

2. Піонэры павінны азнаёміць з задачамі пасеўнай кампаніі вучняў і старацца прыцягнуць да ўдзелу ў гэтай кампаніі школу.

3. Атраду ў школе вельмі важным будзе наладзіць „вечар пасеву“, сабраўшы як мага больш бацькоў. Тут трэба выступіць ня толькі з гутаркаю, але з частушкамі, жывою газэтай, з плякатамі і інсцэніроўкай, у якіх расказаць:

Аб колектыўным організатары сельскай гаспадаркі—„стальным кані“—трактары (пропаганда за організацыю машынных таварыстваў).

Аб кораньплодзе, канюшыне, люцэрне, якія дапамагаюць селяніну павялічыць жывёлагадоўлю і ажыцьцёвіць лёзунг—*„круглы год—зялёны харч“*.

Аб неабходнасьці дапамогі бяднейшым гаспадаркам з боку сялянскіх грамадзкіх організацый.

Пасьля вечару плякаты і лёзунгі павесіць у памяшканьнях грамадзкіх організацый.

4. Кожнаму піонэру трэба даведацца (праз агронома, перадавога селяніна і інш.) аб значэньні шматпольля, раньняга папару, абчысткі насеньня і расказаць аб гэтым сваім хатнім, *дабіваючыся таго, каб яны пачалі ўводзіць гэтыя мерапрыемствы.*

5. Кожны атрад разам са школай вядуць падрыхтоўку да організацыі колектыўнага агароду.

6. Піонэратрады пад кіраўніцтвам ведаючых справу людзей знаёмяцца з тым, як протраўліваць насеньне і к пачатку сяўбы організуюць групы па пратраўцы (дапамагаючы ў гэтым бяднейшаму сялянству).

Праводзячы гэту працу, вясковыя атрады павінны перш за ўсё даведацца, як праводзіць пасеўную кампанію ячэйка комсамолу.

*Праводзячы гэту працу, піонэры зробяць вялікую дапамогу партыі і саветам па ўмацаваньні магутнасьці нашага Саюзу.*

*Да змаганьня за справу працоўных—будзьце гатовы!*

**Цэнтральнае бюро юных піонэраў.**




Апавяданьне з жыцьця шакалаў
**Э. Сэтон-Томпсона.**

Малюнкі **А. Тычыны.**

Разьдзел I.

Каб не маленькі каменьчык, маё апавяданьне ніколі ня было-б напісана.

Гэты каменьчык ляжаў на дарозе, што ідзе ў Дакатэ, і ў адну гарачую цёмную ноч папаўся пад ногі каню, на якім ехаў п'яны пастух Джэк. Пастух саскочыў на зямлю, каб паглядзець, аб вошта скапыціўся конь. Будучы п'яным, ён выпусьціў павады з рук, і конь паляцеў ад яго ў цемру. Пастух Джэк зразумеў, што каня яму не дагнаць, лёг пад кустам і захроп.

Залатыя праменьні раньняга летняга сонца пераліваліся на верхавінах дрэў. Па дарозе, што ідзе ўздоўж Верхняе Крыніцы, прабіралася старая ваўчыца з пароды кайётаў [1]). У зубах яна несла трусіка—на сьнеданьне для сваіх дзетак.

З даўных жывёлаводы гэтай мясцовасьці праводзілі жорсткую вайну з кайётамі. Ямы (капканы), стрэльбы, яд і сабакі амаль што зусім вывелі кайётаў, а тыя нямногія, што засталіся яшчэ ў жывых, навучыліся асьцерагацца пастак на кожным кроку.

Вось чаму старая ваўчыца неўзабаве сышла з дарогі: усе месцы, дзе ступала нага чалавека, паграджаюць кайёту сьмерцю. Ваўчыца прайшла па ўскрайку невялікай горкі, пасьля пратышчылася праз кусты, уважліва абнюхаўшы ўжо выветраны ад часу пах чалавечых сьлядоў, і пабегла да другой гары. Тут на сонечным баку быў бярлог, дзе жылі яе дзеці. Каля бярлогу яна асьцярожна пакруцілася, некалькі разоў падскочыла ў розныя бакі і пацягнула ў сябе носам паветра. Паху, які-б пагражаў небясьпекаю, яна ня чула. Заспакоіўшыся, яна падышла да ўваходу ў свой бярлог і ціха фыркнула.

З бярлогу, каля якога рос густы куст, выскачыла цэлая куча зьверанят, якія скакалі адзін праз другога. Адрыўчата брэшучы і скавычучы, быццам сабачаняты, яны накінуліся на сьнеданьне, якое прынесла матка. Яны зьядалі мяса, адбіралі яго адно ў другога, а матка глядзела на іх і радавалася.

Пастух Джэк прачнуўся, калі ўзыходзіла сонца. Ён пасьпеў заўважыць кайёта ў той час, калі ён праходзіў праз горку. Як толькі кайёт зьнік з вачэй, Джэк ускочыў на ногі, дайшоў да краю гары і ўбачыў адтуль усю вясёлую сям'ю.

Пастух Джэк глядзеў з вялікай цікавасьцю і думаў аб тым, што за кожнага забітага можна атрымаць добрую грашовую ўзнагароду. Пацікавіўшыся ўволю, ён выняў свой вялікі рэвальвэр і пры-

[1]) Ваўкі-кайёты (шакалы) трошкі меншыя за шэрых ваўкоў, якія водзяцца ў нас. Кайёты — гэта лугавыя ваўкі, якія больш пашыраны ў Амэрыцы.

цэліўся ў ваўчыцу якраз у той час, калі яна песьціла аднаго з дзяцей. Загрымеў стрэл, і яна кінулася мёртвай.

Зьвераняты ад страху пахаваліся ў свой бярлог. А Джэк заваліў каменьнямі ўваход у бярлог і пайшоў адгэтуль. Палонныя ваўчаняткі вылі і скавыталі ў цемры.

Увесь дзень яны прасядзелі ў цёмнай нары, дзівячыся, чаму матка ня прыходзіць карміць іх. Ужо ўвечары яны пачулі шум ля ўваходу, і ў нары зноў стала відна.

Самыя неасьцярожныя з зьверанят пабеглі на спатканьне матцы, але гэта была не яна.

Дзьве нейкія цудоўныя істоты разрывалі ўваход у іх бярлог.

Праз нейкі час людзі дабраліся да канца бярлогу, і тут у самым далёкім кутку знайшлі калматых сьветлазорых зьверанят, якія згрудзіліся ў адзін камяк. Моцнымі ўдарамі рыдлёўкі забівалі яны аднаго за другім дрыжэўшых ад страху зьверанят і кідалі ў мяшок.

Кожнае зьверанё трымала сябе перад сьмерцю пасвойму. Адны з іх скавыталі, другія рыкалі, калі іх выцягвалі з нары. Двое ці трое паспрабавалі нават кусацца.

Калі людзі забілі шасьцёра, яны заўважылі ў глыбіні бярлогі сёмае, апошняе зьверанё. Яно ляжала зусім ціха, з напалову зачыненымі вачыма. Напэўна, яму здавалася, што гэтак яго не заўважаць. Адзін з людзей падняў яго, хацеў ужо забіць, але раптам, неспадзявана для сябе самога, пашкадаваў яго.

— Джэк,—сказаў ён,—калі гэта яшчэ жывое, возьмем яго на фэрму. Я яго дзецям аддам у падарунак. Няхай забаўляюцца з ім, як з сабачкам. Калі табе шкода страціць паўдаляра за скурку, я табе зьвярну іх калінебудзь, пасьля.

— Добра, як хочаш, — вяла адказаў Джэк, выціраючы аб зямлю пакрываўленую рыдлёўку.

І такім чынам апошні ваўчок жывым папаўся ў мяшок, дзе ляжалі яго забітыя браты. Нават у мяшку ён не варочаўся і не скавытаў.

Пасьля доўгай дарогі і калатні, мяшок разьвязалі, ваўчка выцягнулі—і ён апынуўся перад цэлым гуртам дзяцей.

— Сабачка! Сабачка!—весела крычалі дзеці.—Чаму гэта сам ён маленькі, а галава ў яго гэткая вялікая? А чаму ў яго гэткая гострая мыска?

Мэксіканец, які быў у гэты час на фэрме Чымней-Пот, растлумачыў дзецям, што гэта не сабака, а маленькі кайёт, сваяк сабакі і ваўка.

Зьверанё пачалі зваць „Кайёціто“, а пасьля, для палягчэньня вымовы, проста „Ціто“.

### Разьдзел II.

Выявілася, што гэта самка. Яна была прыгожанькай, маленькай, з пушністай поўсьцю і з галавою, вельмі шырокаю між вушамі. З выгляду яна была вельмі падобная на сабачаня, але як лялька для дзяцей не падыходзіла.

Ціто ела ўсё, што ёй давалі, але ні з кім не сябравала і ніколі ня выходзіла з сваёй будкі, калі яе клікалі. Яна баялася людзей таму, што яны абыходзіліся з ёй заўсёды кепска і часта выцягвалі яе за ланцужок, калі хацелі яе бачыць. У такіх выпадках яна моўчкі пераносіла сваё гора, а іншы раз прыкідвалася мёртвай.

Сярод дзяцей фэрмера быў трынаццацёхгадовы хлопчык Лінкольн. У будучым ён стаў падобны на свайго бацьку, добрага, цьвёрдага і разумнага чалавека; але ў той час ён быў маленькім бязьлітасным зьверам.



*У зубах яна несла трусіка...*

Падобна да ўсіх сваіх таварышоў, Лінкольн марыў стаць пастухом і пагэтаму ўвесь час вучыўся кідаць ласо—доўгую скураную пятлю для лоўлі жывёлаў. Але лавіць яму ня было каго. Накідаць ласо на слупы і пні было ня цікава. Лавіць братоў і сёстраў яму забаранялі. Сабакі ўцякалі ад яго, калі толькі бачылі яго з пятлёй у руках. Заставалася спыніцца з гэткай забавай на Ціто. Бедная Ціто хутка зразумела, што паратунак можна знайсьці толькі ў будцы. Варта было ёй толькі выйсьці з будкі, як на яе са сьвістам ляцела пятля. Ціто прыпадала да зямлі і гэткім чынам ратавалася ад ласо.

Але калі Ціто нагэтулькі напрактыкавалася, што злавіць яе стала немагчыма, жорсткі хлапчына прыдумаў новую забаву. Ён дастаў вялікі капкан для лоўлі лісіц, укапаў яго ў зямлю ля самай будкі і зьверху накрыў усялякімі аб'едкамі. Праз некаторы час Ціто, пачуўшы прыемны пах яды, асьцярожна падышла да яе і аднэй нагою папалася ў капкан. Хлопчык наглядаў за ёю са зручнага месца. Ён дзіка закрычаў нявыразным клічам, як крычаць індзейцы, і кінуўся да Ціто. Ён накінуў на Ціто сваё ласо і, з дапамогаю меншага брата, свайго здольнага вучня, вызваліў яе з капкана раней, чым старэйшыя даведаліся аб яго забаве. Два ці тры падобных вопыты ўкаранілі ў Ціто сьмяртэльны страх перад капканамі. Яна хутка навучылася пазнаваць пах сталі і цуралася капканаў, ня гледзячы на тое, што Лінкольн вельмі хітра і спрытна закопваў іх у зямлю.

Ціто сядзела на ланцугу. Але аднойчы неяк ланцуг у адным месцы лопнуў. Тады Ціто паспрабавала ўцякаць; нерашучымі крокамі вышла яна з сваёй будкі, цягнучы за сабою кавалак ланцуга. Але адзін з рабочых убачыў яе і стрэліў у яе шротам. Боль і неспадзяванасьць гэтага прымусілі яе зараз-жа вярнуцца назад у адзінае знаёмае месца—будку.

Ціто зноў пасадзілі на ланцуг. Цяпер Ціто ведала, што трэба баяцца ня толькі капканаў, але і стрэльбаў.

Хутка яна даведалася, што ёсьць яшчэ і іншыя небясьпечныя рэчы.

Лінкольн чуў ад старэйшых, што ваўкоў часта зьнішчаюць атрутай. Яму прышло на думку зрабіць гэткі вопыт над Ціто. Дастаць стрыхнін было цяжка — дарослыя яго вельмі добра хавалі. І вось Лінкольн дастаў атруты для мышэй і даў яе Ціто з кавалкам мяса. Стоячы ля будкі, ён спакойна чакаў, чым скончыцца яго вопыт, як профэсар хэміі, які толькі што распачынае новае дасьледаваньне.

Ціто панюхала мяса; кожную рэч неабходна раней усяго праверыць носам. Яда для носу здалася падазронай—ён знайшоў у ёй тры пахі: пах ад мяса, ад рук чалавека і яшчэ нечага незнаёмага. Але таму, што гэта незнаёмае ня пахла ні капканам, ні порахам—Ціто парашыла зьесьці мяса. Праз некалькі хвілін пасьля таго, як яна праглынула кавалак, у яе моцна забалеў жывот, а пасьля яе ўзяла сударга. Моцным напружаньнем волі яна прымусіла сябе вырыгаць атручанае мяса.

Пасьля гэтага яна са смакам накінулася на нейкую траву і праглынула некалькі каліў яе. Ня мінула і гадзіны, як яна зусім адышла.

Лінкольн засыпаў ёй гэтулькі атруты, што яна магла-б задушыць цэлы тузін кайётаў. Калі-б ён даў ёй менш, яна-б, напэўна, адчула боль у жываце вельмі позна і не пасьпела-б вырыгаць атруту.

З гэтага часу Ціто назаўсёды застаўся вядомым асаблівы пах мышынай атруты, ад якой гэтак моцна баліць жывот.

Апрача таго, Ціто навучылася ў такіх выпадках карыстацца травамі—тым лячэбным сродкам, які прырода амаль што ўсюды падрыхтавала для яе. З гэтага часу, калі толькі яна адчувала боль, яна кідалася шукаць траву.

Праз некаторы час адзін сваяк прыслаў, як падарунак, Лінкольну бультар'ера (сабаку). Сабака прынёс шмат радасьці Лінкольну і шмат гора кайёту. Хлопчык заўсёды любіў нацкаваць лютага сабаку на спакойнага Ціто. Ціто яшчэ цьвярдзей запамятавала, што ў выпадку небясьпекі лепш за ўсё—гэта ціха і скромна ляжаць на зямлі.

Але ня думайце, што Ціто заўсёды была такой спакойнай і скромнай. Яна навучылася агрызацца. Яна выходзіла на паляваньне на куранят, што бегалі па двары. Прыкідаючыся сплючай, яна няпрыкметна сачыла за імі і, калі яны падыходзілі да самай будкі, раптоўна кі-

далася на іх і хапала самае неасьцярожнае кураня.

У дадатак да ўсяго гэтага яна трывожыла і псавала настрой людзям сваім сьпевам: сьпявала яна раніцамі і вечарамі.

За гэткае жаданьне сьпяваць яе часта білі. Як толькі заляпаюць дзьверы або фортка—Ціто перастававала сьпяваць і ўцякала ў будку. Яна ведала, што ўсьлед за стукам паляціць у яе палка ці камень, ці зарад шроту. З кожным днём усё больш рос у яе страх перад людзьмі і стрэльбамі. Чаму яна любіла сьпяваць,—нікому невядома. Песьня яе складалася з урыўкаў браханьня і жаласных енкаў. Усе сабакі спачувалі яе сьпевам і з ахвотай адгукаліся на іх, аднаго разу нават

Калі яна заўважала, што людзі ведаюць, дзе закапаны яе прыпасы, дык пры першай мажлівасьці перакладала іх і закапвала ў другое месца.

Мінуў год з таго часу, як Ціто жыла ў няволі. За гэты час яна зусім вырасла і набыла шмат вопыту, за які яе дзікія таварышы ахвяравалі-б сваё жыцьцё. Ціто пазнаёмілася з капканамі і стрэльбамі і навучылася баяцца іх. Яна назаўсёды запамятала, які пах мае атрутная прыманка і што трэба рабіць, калі нясумысьля праглынеш атручанае мяса. Яна зразумела, што яе ранішнія і вячэрнія сьпевы павінны быць як мага карацейшымі. Яна навучылася ненавідзець і баяцца сабак. А цьвярдзей за ўсё яна запомніла правіла: калі небясьпека блізка,



*Яна выходзіла на паляваньне на куранят, што бегалі па двары.*

дзікі кайёт адгукнуўся з-за далёкіх узгор'яў. Звычайна Ціто сьпявала ўвечары, калі пачынала добра цямнець, і досьвіткамі, але іншы раз і ў светлую месячную ноч яна залівалася выцьцём, калі чула які-небудзь раптоўны для сябе шум.

У самай глыбі сваёй будкі Ціто схавала маленькую кучку касьцей, а перад будкай закапала ў зямлю некалькі кавалкаў мяса. Гэта былі прыпасы на выпадак голаду. Яна добра памятала, дзе ляжаць яе прыпасы.

прытуліся да зямлі, нічога не рабі і не шавяліся, каб цябе не заўважылі.

Ціто была ўжо дарослым кайётам, калі гаспадар фэрмы купіў двух гончых сабак. Ён думаў зьнішчыць астатніх кайётаў, якія яшчэ рабілі напады на статкі авец у ваколіцах фэрмы.

Для таго, каб зрабіць вопыт над сваімі новымі сабакамі, ён парашыў нацкаваць іх на Ціто. Яе пасадзілі ў скрынку і павезьлі ў стэп. Там яе выпусьцілі на волю і зараз-жа сьледам за ёй спусьцілі з ланцугоў гончых. Ціто памчалася з

усіх ног; наўздагон за ёй нёсься крык людзей і браханьне сабак. Гончыя ляцелі сьледам. Ратунку для Ціто ня было. Праз хвіліну сабакі павінны былі дагнаць і парваць яе.

Але раптам Ціто спынілася, павярнулася і пайшла насустрэч сабакам, прыветна матаючы хвастом.

Гончыя—гэта зусім асаблівыя сабакі. Яны гатовы загрызьці ўсякага, хто ўцякае ад іх. Той-жа, хто не ўцякае, а спакойна глядзіць ім у вочы,—адразу перастае быць для іх ворагам.

Гэтак здарылася і цяпер. Гончыя, якія з гарачкі гэтак разагналіся, прамчаліся міма Ціто, але зараз-жа вярнуліся назад. Фэрмэры таксама былі зьдзіўлены. Маленькі сьмелы кайёт аказаўся хітрэйшым за ўсіх.

Ціто зноў загналі ў скрынку і адвезьлі на фэрму.

На другі дзень фэрмэры парашылі зрабіць зноў свой вопыт, але на гэты раз разам з гончымі ўзялі яшчэ і лютага бультар'ера. Як і ўчора, Ціто зьдзівіла гончых сваёй хітрасьцю: яны гэтак сама спыніліся перад Ціто, страціўшы сваю лютасьць, калі толькі апошняя перастала ўцякаць. Але бультар'ер ня быў гэткім далікатным, як гончыя. Ён спрытна схапіў Ціто за шыю, за густую поўсьць яе, і пачаў калаціць Ціто з усёй сілай. Праз некалькі хвілін Ціто ў бясьсільлі ляжала на зямлі. Фэрмэры пачалі хваліць сьмелага бультар'ера, а гончыя ў гэты час круціліся навокал, ня ведаючы, што рабіць.

Усе думалі, што Ціто скалела. Адзін ангелец, які прыехаў паглядзець, як будуць цкаваць гончымі кайёта, папрасіў дазволу ўзяць сабе на ўспамін хвост „гэтай дзіўнай жывёлы". Яму дазволілі. Ён падняў Ціто за хвост і адным махам нажа адрэзаў у яе добрую палову хваста. Ціто кінулася на зямлю з жаласным піскам і зараз-жа кінулася бегчы. Выявілася, што яна ўвесь час толькі прыкідвалася мёртвай, а цяпер, будучы зьбянтэжанай ад болю, памчалася ва ўвесь дух праз кусты кактуса і шалфэя. Для гончых усё тое, што ўцякае—вораг, якога трэба на чым-бы гэта ні стала дагнаць. Тонканогія гончыя і белагруды бультар'ер раптоўна кінуліся ўздагонку. Але, на шчасьце Ціто, дарогу сабакам перабег заяц. Згубіўшы кайёта з вачэй, гончыя кінуліся за зайцам, які таксама неўзабаве зьнік у густых кустох.

Такім чынам і кайёт і заяц былі выратаваны.

Ціто адчувала сябе добра, хоць паранены хвост усё яшчэ балеў. Яна борзда бегла наперад, хаваючыся ў кустох і лагчынах, пакуль не знайшла пэўнага і спадзейнага прытулку сярод гор Бэдланды.

## Разьдзел III.

У кожнай дзікай жывёлы ёсьць тры крыніцы ведаў. Першая крыніца—гэта вопыт продкаў, альбо інстынкт, які набыты жывёлаю, як спадчына. Гэты вопыт набывалі продкі за доўгія вякі прыгодаў, здарэньняў і небясьпекаў.

Другая крыніца ведаў—прыклад бацькоў і іншых дарослых жывёлаў тае-ж пароды. Малы зьвярок пераймае ўсе звычаі і паводзіны свайго племя.

Трэцяя крыніца ведаў—уласны вопыт.

Вопыт, што перадаецца, як спадчына—інстынкт,—не заўсёды памагае жывёле, бо ён вельмі адстае ад новых умоў жыцьця, да якіх трэба прыстасоўвацца. Прыклад дарослых таксама ня можа навучыць маладога ўсяму таму, што неабходна ў жыцьці. А трэцяя крыніца ведаў мае загану тую, што ўласны вопыт заўсёды набываецца шляхам вялізарнай небясьпекі.

Ціто вучылася жыцьцю ня так, як ўсе іншыя кайёты. Уласнага вопыту яна набыла куды больш, чым другія маладыя кайёты, але затое яна ніколі ня мела магчымасьці пераймаць прыклады жыцьця ад старэйшых і таму ня ўмела здабываць сабе яду шляхам паляваньня на слабейшых жывёлаў.

Цяпер яна апынулася на волі. Ратуючыся ад пагоні, яна толькі адзін раз прысела, каб аблізаць акрываўлены хвост. Яна бегла і бегла, пакуль не натрапіла на пасёлак сусьлікаў.

Ціто паспрабавала наладзіць паляваньне. Мноства сусьлікаў сядзела ля сваіх нораў і глядзела на незапрошанага гасьця, але ўсе яны раптам паўцякалі, калі толькі Ціто наблізілася да іх. Дарэмна гайсала яна з боку на бок.

Ціто так і засталася-б галоднай, калі-б ёй не пашанцавала злавіць у траве на беразе ракі дзьвюх палявых мышэй.

Але праз некалькі дзён Ціто ўжо ведала, як здабываць яду. Мышэй, трусоў, сусьлікаў, яшчарак навокала было шмат. З кожным днём Ціто рабіла паляваньне ўсё хітрэй і з большай удачай. Разоў за два бачыла яна за гэты час людзей з сабакамі. Усякі дзікі кайёт пачаў-бы на яе месцы нэрвова брахаць, альбо ўзьлезбы на ўзгорак, каб адтуль наглядаць за ворагамі. Але Ціто зразумела, што гэта непатрэбна і прытым небясьпечна для жыцьця. Яна толькі клалася на зямлю і замірала. Калі-б яна кінулася бегчы, яна абавязкова была-б заўважанай сабакамі.

Так вопыт, які яна набыла на фэрмэ, ратаваў яе ад сьмерці.

Уся парода кайётаў вызначалася хуткасьцю бегу. Кайёт ня верыць, што на свеце ёсьць жывёла, якая можа дагнаць яго. Ён звычайна толькі забаўляецца з тымі, што прабуюць даганяць яго. Але калі яго даганяе гончы,—гэта забава мае сумны канец для кайёта. Ён вельмі позна здагадваецца, што яму трэба ўцякаць ад гэтага ворага сур'ёзна.

Ціто вырасла на ланцугу і зусім ня ўмела бегаць. Пагэтаму ў яе ня было ніякай падставы для таго, каб верыць сваім нагам. Яна жыла, спадзяючыся толькі на свой вопыт, і гэта было для яе самым лепшым паратункам.

У працягу ўсяго лета Ціто вандравала ля ракі Малой Місуры. Яна працягвала сваю вучобу ў галіне паляваньня шляхам хітрасьці і спрыту. Калі-б яна вырасла на волі, яна вывучыла-б усе гэтыя прыёмы яшчэ да таго часу, калі ў яе выпалі малочныя зубы.

Увесь час яна старалася быць як мага далей ад фэрмаў і хавалася, калі толькі чула пах чалавека ці незнаёмай жывёлы. Такім чынам Ціто правяла лета ў поўнай адзіноце. Удзень яна не адчувала сябе адзінокай, але, калі сонца заходзіла, яе ахапляла вялізарнае жаданьне сьпяваць.

Песьню сваю выдумала яна не адна сама. З незапомных часоў усе кайёты выказвалі сваё пачуцьцё ў гэтых дзікіх гуках, у якіх адчуваецца і жыцьцё самога кайёта, і раўніна, якая яго нарадзіла. Калі адзін кайёт пачынае сьпяваць, гэта песьня так-жа сама ўплывае на іншых, як гук трубы і барабана на салдат ці вайсковы гімн на індзейцаў. Кожны кайёт, дзе-б ён ні вырас, адгукаецца на начную песьню лугоў. Яны сьпяваюць яе пасьля захаду сонца і пры ўсходзе месяца, калі прыходзіць час паляваньня. Сьпяваюць яе, калі бачаць вогнішча. Але калі пачынае сьвятаць, перад тым, як схавацца з шырокага адчыненага поля, кайёты сьпяваюць самую моцную і хвалюючую іх песьню:

У-у-у-ооо-оо-оо-оу.

І зноў паўтараецца гэты дзікі напеў. Чалавеку ён здаецца аднастайным толькі таму, што ён ня можа распазнаваць паасобных гукаў—гэтак-жа сама, як кайёт ня можа пазнаць слоў у песьні пастуха.



*Джэк імчаўся сьледам за ёй і пасылаў наўздагон кулю за куляй...*

Ціто па прывычцы, якая ўкаранілася ў яе адроду, сьпявала гэтыя песьні ў пэўны час. Але горкі вопыт навучыў яе сьпяваць коратка і глуха. Некалькі разоў яна чула далёкі водгук сваіх родных братоў, але зараз-жа зьдзіўлена змаўкала і борзда перабіралася ў другое месца.

Аднойчы, вандруючы ўздоўж берагоў Верхняй Крыніцы, яна найшла на сьлед: відаць, сюдою валаклі кавалак мяса. Пах быў нязвычайна прывабным, і яна пайшла

па сьляду. Раптам Ціто наткнулася на самае мяса. Яна была галоднай—цяпер яе амаль заўсёды мучыў голад. Спакуса была вялікай, і, ня гледзячы на тое, што пах быў зусім асаблівы, яна праглынула мяса. Але ўжо праз некалькі сэкунд яна адчула страшэнную боль. Успаміны аб атручаным кавалку, які ёй падсунуў хлопчык на фэрмэ, былі яшчэ сьвежымі, дрыжачымі,усьпененымі сківіцамі яна схапіла некалькі каліў травы і, вырыгаўшы атручанае мяса, упала ў сударгах.

Гэты кавалак мяса падкінуў Джэк.

Усё гэта зрабіў ён учора, а раніцой, праяжджаючы па мосьце праз раку, здалёк убачыў кайёта, які бясьсільна трапятаўся ў сударгах. Ён зараз здагадаўся, што атрута зрабіла сваю справу, і борзда пад'ехаў да сваёй ахвяры. Пачуўшы стук конскіх капытоў, страшэннаю сілаю волі перамагаючы ўсё, Ціто ўскочыла на ногі. Джэк схапіў рэвольвэр і стрэліў, але толькі напалохаў яе. Ціто паспрабавала бегчы, але яе заднія ногі не варушыліся. Яна сабрала ўсю сваю сілу і кінулася наперад, цягнучы заднія ногі. Калі-б яна засталася ляжаць нярухома, дык памерла-б праз некалькі хвілін. Але стрэлы і набліжэньне чалавека надалі ёй адчайнай рашучасьці. Яна паранейшаму адчайна змагалася з сваім бясьсільлем. Памярцьвелыя нэрвы яе ног прынялі напружанае становішча ад гэтых высілкаў і павінны былі падначаліцца волі.

Калі-б Джэк на гэтым спыніў сваю пагоню, яна-б, напэўна, усё-такі лягла-б на зямлю і тады-б абавязкова памерла. Але ён імчаўся сьледам за ёй і пасылаў ён наўздагон кулю за куляй, пакуль, нарэшце, на другой мілі Ціто зусім не ачуняла.

Гэткім чынам Джэк выратаваў Ціто.

Новыя весткі, якія Ціто набыла ад прыгодаў у гэты дзень, мелі для яе наступнае значэньне: дзіўны пах, які меў гэты кавалак мяса, цягне за сабою сьмяртэльныя мукі.—Яна ніколі не забывалася аб гэтым, і з таго часу заўсёды пазнавала стрыхнін.

На шчасьце, калі адбываецца паляваньне з капканамі ці атрутай, ня пускаюць сабак, бо сабакі самі могуць папасьціся ў капкан ці атруціцца. Калі-б у пагоні за Ціто прымаў удзел хоць адзін сабака, наша гісторыя была-б скончанай.

*(Працяг будзе).*

# ДОБРАМУ АГАРОДУ—ДОБРЫ ДОГЛЯД.

*(Як садзіць і вырашчваць гародніну).*

— Гэй, Янка, зноў вязеш? У Глусак, ці што?

— Ды ўсё туды-ж, у Глусак на рынак,—адгукнуўся з возу малады хлопчык гадоў шаснаццаці.—Бацьку часу няма: малацьбой заняўся. Мне ўсё прыходзіцца.

— А ты, Міхась, куды?

— Таксама ў Глусак,—трэба газы купіць, а то дома і каплі няма.

— Ну, дык сядай на воз, паедзем разам, памаленьку. Усё роўна конь наш бегчы ня любіць.

—А што сёньня ты вязеш?

— Ды ўсё тое-ж: цыбуля, моркаў ды памідораў кошык і яшчэ тое-сёе.

*Цыбуля, пасаджаная: налева—вельмі глыбока, направа—правільна.*

— Зноў на рублёў 20?

— Ня ведаю, пабачым там, менш павінна быць.

— Скажы мне, Янка, чаму гэта ў вас расьце кожны год так добра гародніна? У нас дык і тутун ня хоча ад зямлі паднімацца.

— Гэта, браце, бывае ўсё ад таго, які догляд. Калі хочаш, паслухай, як мы даглядаем свой агарод. Раскажу табе пра ўсё папарадку, як ведаю.

І Янка пачаў расказваць.

— Ты бачыш гэты качан капусты. Ён вырас у нас на нізкім месцы. Капуста лепш за ўсё любіць нізкія месцы, вільготную і добра ўгноеную глебу, глінiстую ці тарфяную.

Капуста па часу пасьпяваньня падзяляецца на раньнюю і позную. Для нас важней позная, раньняя—гэта больш падгародная—яе там добра купляюць, а ўсётакі крыху для сябе і раньняй добра пасадзіць. Новы сорт вельмі добры,—„нумар другі“. З больш позных добрыя элгінская, коопэратарка (для сухога агароду), браўншвэйгская, а з самых позных—сабураўская (толькі для вільготнай, багатай глебы).

Расаду для раньніх сартоў добра ў парнікох вырошчваць, каб раней качан атрымаць, а позную расаду лепш за ўсё на градках вырошчваць. Насеньне капусты лепш не мачыць, а сухім сеяць заразжа, як сьнег сыйдзе.

На градку лепш за ўсё насеньне радкамі саджаць на 1/3 вяршка зерне ад зерне, адлегласьць паміж радкамі павінна мець 1 вяршок. Саджаць трэба ў сыраватую зямлю, тады паліваць пасьля пасадкі ня трэба. Ды і потым паліваць часта ня трэба. Дзе густа ўзыйдзе—прарадзіць трэба. Калі добра ўжо вырастуць 2—3 лісты і ёсьць у вас час, трэба першую перасадку зрабіць. Выкопваюць расьлінку, адрэзваюць крышку кончык кораня і зноў саджаюць, цяпер ужо на вяршок адну ад другой,—пры гэтым расада мацнейшай атрымоўваецца (а можна і бяз гэтага).

На месца высаджваць трэба тады, калі 4-5 лісточкаў будзе. Перад перасадкай градкі з расадаю змачыць добра, каб каранёў ня рваць. Градкі для капусты ня ўсюды патрэбны—толькі на сырых мясцох, а дзе сушэй—лепш на роўнай пашні яе саджаць, рад ад раду на аршын для позьняй капусты, на 12 вяршкоў для раньняй. І ў раду паміж расьлінамі па гэтулькі-ж. Саджаць добра так: зрабіць цуркаю ямку, у ямку расаду апусьціць так, каб корань не загнуты быў, ямку вадою паліць, каб карэньчык гразёю зацягнуўся, потым зямлёй засыпаць. Ды ямачку наўкола расьлінкі пакінуць, на выпадак, каб потым, як будзе сухмень, паліваць можна было.



*Капуста з хваробай—кілой.*

Перасаджваць лепш пад вечар ці ў хмурую пагоду. Расаду ня рукамі вырываць, а лапаткай адкопваць, і толькі здаровую перасаджваць. Разы два,—толькі абавязкова пасьля дожджу ці пасьля простай паліўкі жыжай з-пад гною—добра змачыць. Тыдняў

праз тры пасьля пасадкі прапалоць і зямлю ўзварушыць, лепш матычкамі, калі агарод невялікі. Тут-жа і акучваць трэба—зямлю к каранём падваліць. Потым тыдняў праз 2-3 яшчэ раз акучыць.

У ліпені трэба аглядзець лісты зьнізу, ад яечак і вусеню ачысьціць. Калі вельмі травой зарасьце, яшчэ раз папалоць трэ' будзе.

Часта, калі доўга капусту ці расаду на адным месцы садзяць, хвароба на ёй зьяўляецца—кіла (глядзі малюнак). Карэньчыкі распухаюць, ніжнія лісты жаўцеюць, ці засыхае расьліна, ці качана не дае. Такую капусту вырываць трэба, спальваць, а месца вапнаю пасыпаць. Ды потым капусту па капусьце не саджаць

І агуркоў многа сартоў бывае. Лепш за ўсё для нас вязьнікоўскія падыйдуць. Іх





*Адросткі гуркоў, пасаджаных вельмі высока (зьлева), і веткі гуркоў, пасаджаных вельмі глыбока (справа).*

саліць вельмі добра і хварэюць яны менш, чымдругія. Добрыя яшчэ няросімыя і мурамскія. Агурок расьліна паўднёвая. Ніколі ня трэба спяшацца з яго пасевам, каб ён не прападаў ад халадоў. У тых мясцох, дзе радзіску і салат прадаць можна, добра агуркі пасьля іх у тое ж лета сеяць. Тады падвойны прыбытак атрымаецца. У нашых мясцох высяваць можна з паловы мая да паловы чэрвеня. Трэба агуркі сеяць у цёплую і вільготную зямлю. Насеньне можна прарасьціць у мокрай анучцы, даць трошкі наклюнуцца. Так добра ўсходзіць потым, але толькі пры пасеве з насеньнем цяжэй, да рук прыліпае і расткі абломваюцца.

Я больш люблю сухімі саджаць. Бяру градку ў 1—1¼ аршыны шырынёю. На дрэннай зямлі трэба пасярэдзіне градкі баразну вяршкоў 4 у глыбіню выкапаць, гной падкласьці. Потым яго засыпаць. Насеньне ў гэту баразну на вяршок—па два адно ад другога саджаць. Калі час ёсьць, трэ' было-б тут-жа, не засыпаючы зямлёю, баразну вадою паліць, асьцярожна толькі, каб насеньне ня змыць а потым засыпаць. Ды ня вельмі многа зямлі наваліць. Калі прарошчанае насеньне, дык абавязкова іх паліць трэба.

Градкі пад агуркі лепш рабіць нізкія, хіба толькі ў сырых мясцох вышэй. А дзе сушэй, лепш і зусім бяз градак абысьціся. Асабліва, калі глеба лёгкая, пяшчаная. Пры добрым угнаеньні агурок і на глiністай і на пяшчанай глебе добра ўдаецца. Як узыйдзе, вельмі добра разоў 2—3 праз 1—2 тыдні жыжаю з-пад гною паліць. Як трэці лісток зьявіцца, прарадзіць трэба, на 3—4 вяршкі пакідаць. Ды не шкадаваць, а то потым пашкадуеш. Тут-жа і полюць, і рыхляць, і акучваюць. Потым, да таго часу, як ён пачне паўзьці, яшчэ раз прапалоць і разрыхліць зямлю трэба.

Як агуркі, так і капуста гной любяць, і сьвежы гной. А вось пад караньплоды лепш перапрэўшы класьці. Моркаў, буракі, рэпа да караньплодаў адносяцца. З імі абыходжаньне простае. Разы 2—3 прапалоць, прарадзіць, ды зямлю ўзрыхліць, і ўсе тут. Моркаў вельмі не разборчывая. Лепш за ўсё ўдаецца на лёгкіх грунтах. Бывае яна кароткая, сярэдняя і доўгая. Лепшай для нас будзе доўгая моркаў, „валерыя“ завецца. З паўдоўгіх вельмі добра нантская. Мы заўсёды сеім моркаў барознамі, крыху наўскось, папярок градак. Так і палоць зручней, і зямлю рыхліць можна. Палоць два разы абавязкова трэба, а часам і трэці прыходзіцца. У радох, як полеш, моркаў абавязкова прараджваць трэба—на 1—2 вяршкі пакідаць, а потым і таго радзей: рад ад раду на 4 вяршкі. Сеяць лепш раней, як сьнег сыйдзе, прыблізна ў канцы красавіка.

Сеюць заўжды сухім насеньнем і ніколі не паліваюць. Яна тыдняў тры не прарастае, а пройдзе дождж—і пачне вылазіць. І наогул часам паліўка на агародзе больш шкоды прыносіць, чым карысьці. Я за ўсё лета толькі і паліў, што расаду ў часе пасадкі. Замест паліўкі лепш часьцей зямлю рыхліць, старацца толькі пасьля дожджу.



**Студэнты Горацкай с.-г. Акадэміі ў якасьці практыкі па заданьню Акадэміі арганізавалі шмат дзе ў бліжэйшых ад Акадэміі вёсках Аршаншчыны сельска-гаспадарчыя гурткі дзяцей.**

**У гурткох адбываецца практычнае вывучэньне таго, як лепш весьці сельскую гаспадарку. Дзеці вучацца быць добрымі, сьвядомымі гаспадарамі. Цяпер гэтыя гурткі самастойна ня існуюць, а пры атрадах. На малюнку пададзены момант з працы аднаго такога гуртка—дагляданьне агароду.**

---

Хлопцы і не заўважылі, што прыехалі ў мястэчка, каб не счапіліся з нейкім возам іх калёсы.

— Гэй, вы, падшыванцы, чаго варон страляеце! Ня бачыце, што людзі едуць— крыкнуў на іх гэты дзядзька.

Хлопцы саскочылі з возу, адкінулі калёсы і, нічога не сказаўшы, паехалі далей.

— Яшчэ я табе раскажу аб памідорах, пакуль даедзем да рынку,—зазначыў, садзячыся на воз, Янка.—Шмат хто ня ведае нават, што гэта за штука—памідор. А памідоры, братка, выгадная штука. Яны вельмі смачныя.



Сеюць іх у пачатку красавіка, высаджваюць у сярэдзіне і ў канцы мая. Замаразкаў вельмі баяцца, на глебу неразборчывыя. Гной любяць. Расьліна моцная такая. Да палкі падвязваць трэба, каб не лажылася. Расткі бакавыя якія з пад лістоў выходзяць, абразаць трэба. Работы каля іх многа; затое плады смачныя. Месца для іх сонечнае выбіраць трэба. З паўночнага боку расьці ня будуць. Саджаць бяз град можна на аршын—аршын з чвэрткаю куст ад куста. Гной перапрэўшы пад кожны куст класьці, а то і сьвежы нічога.

Ну, вось і прыехалі. Ты Міхалка борзда справішся?

— Толькі газы куплю ды назад.

— Мяне пачакаеш каля Міхала ды разам паедзем дахаты.

— Добра,—адказаў Міхалка.

— Па дарозе яшчэ пагутарым

І суседзі разышліся ў розныя бакі.

По кніжцы С. Антошына **„Овощи“**.

# ПЕТРЫК ЦЫГАНЁНАК

З тэй пары прабегла шмат вады,
Многа дзён гады параскідалі,
Ды адно ня зьнішчылі гады:
Нас адны і тыя вабяць далі!

——

Летні вечар ціха дагараў.
Гэткім часам, пэўна, ўсе мы любім
Пачытаць газэту ці журнал
У раённым піонэрскім клюбе...
Так і я сядзеў, уткнуўшы нос
І забыўшыся пра ўсё наўкола.
Толькі раптам чую—у вакно
Стукае таварыш мой Мікола.
„Што за справа ў гэткую пару?“—
Я бурчу з дакорам: „нечакана“...
Але ўсё-ткі шапку я бяру,
Выбягаю борзьдзенька на ганак...
А з Міколай, побач там якраз,
Нейкі хлопчык гэткі засмучоны...

„Гэта хто?“ Мікола мне ў адказ:
„Будзь знаёмы: Петрык-цыганёнак...
Бачыш, сёньня ён да нас прыбег:
Хоча быць таксама у атрадзе...
Ён пісьменны... Ну, ды ён табе
Сам усё раскажа заўтра за дзень.
Зараз вось няма ў яго бацькоў,
І цыганы з табару прагналі...
Ён затым да нас прыйшоў,
Каб знайсьці начлег сабе надалей...
Прападае хлопец ні за што...
Ну, а так-бы вышаў чалавекам.
Што, калі-б вось нам усім зьвяном
Ўзяць яго, ну, значыць, пад апеку?
Покуль там яшчэ дзіцячы дом,
Покуль Петрык будзе ў піонэрах...

Мы б яго цяпер усім зьвяном,
Па чарзе, трымалі на кватэрах!“
„Гэта так! Ідзём хлапцоў шукаць...
Зробім збор зьвяна і ўраз намецім“...
І ўжо я пакінуў шкадаваць
Аб сваёй нячытанай газэце...

2.

Скора стаў наш Петрык піонэр.
Ня мінула, праўда, тут бяз спрэчак.
Гаварылі многа, што раней
Заўважалі хлопца ў дрэных рэчах...
Словам, нібы ён калісьці краў,
І казалі нават—цыганёнак
Нек аднойчы каля крам
На вачох усіх сьцягнуў пярсьцёнак.
Так цягнулісь спрэчкі да начы.
Мы з Міколам сталі ў „абарону“...
І, урэшце, ўсё-ткі „залічыць“
Ухвалілі цыганёнка...
Жыў спачатку Петрык у зьвяне,
Працаваў ахвотна і з запалам.
А тады... ня нашая віна,
Што яго ў дзятдом ад нас забралі...
Так ён проста неяк зьнік з вачэй.
Потым чуў: зьбіраецца ў дарогу...
Ну, а потым... потым я яшчэ
Ня пытаўся болей анічога...

3.

Дні ідуць, бяжыць усё ў жыцьці...
Раз іду вячэрняю парою...
„Юлька, стой! куды ты так ляціш?“—
Раптам чую голас за сабою...
Стаў. Гляджу за ўсе бакі.
Мчыцца да мяне, бы ў часе гонак,

Той-жа самы любы, дарагі,
Наш агульны Петрык-цыганёнак.
„Ф-фу! прыстаў“,—сьцірае з твару пот...
„Ну, ў цябе-жа, браце, і паходка!
Два кварталы бег, раскрыўшы рот...
Пачакай-жа, завяжу абмотку“.
Я гляджу: ўсё той-жа балагур,
Апрануты добра, як ніколі.
„Ну, дык што стаім мы на рагу?
Пойдзем далей. Я, брат, у профшколе“.
„Комсамолец?“—„Так. А ты?“ „І я“.
„Ты студэнт? Настаўніка рыхтуеш?“
„Значыць, доля гэткая мая“,—
Адказаў, спыніўшыся, яму я.
„Пішаш вершы? Я чытаў твайго...

„Цьфу! забыўся... многа плацяць зараз?“
Я сьмяюся. Болей усяго
Яго ўвершах вабяць гонарары...
... Словам, так да поўначы удвох
Гаманілі з Петрыкам тады мы.
Успаміналі аб мінуўшых днёх
З нейкім радасным уздымам.
Разьвіталісь позна на рагу,
Моцна сьцісьнуўшы адзін другому рукі.
Я пайшоў дамоў пад сьнежны гул,
Ён пайшоў па гарадзкому бруку.
А калі прышоў я—сеў ураз
І пад гоман завірухі звонкай
Напісаў вось гэты самы сказ
Аб шчасьлівым, вольным цыганёнку

**Ю. Таўбін.**






# ДЛЯ НАТУРАЛІСТЫХ ЁСЬЦЬ РАБОТА.

А хто з дзяцей ведае, чаму пажоўкла і ня вырасла вялікай капуста на вашым агародзе, чаму мінулым летам ападала так многа яшчэ непасьпеўшых яблыкаў?

Вы бачылі, як маленькія мурашкі бегаюць па дарожках, узьбіраюцца на высокія дрэвы?

Выгадаваць краскі і паставіць іх на вокнах—таксама вельмі цікавая справа.

Ці зрабілі вы пры школе градку з краскамі? Калі ў вас пры школе маецца зямля ды к таму яшчэ пустуе, чаму вы яшчэ не зрабілі клюмбаў і не засадзілі прыгожымі пахучымі краскамі?

Шмат хто з вас і не заўважвае, што навакол нас так многа цікавага!

А ці робіце вы нагляданьні над усім гэтым цікавым?

Нагляданьне прыроды ня толькі цікавая, але і карысная грамадзкая справа.

Вы па пэўных нагляданьнях можаце даведацца, ці будзе заўтра дождж. Зрабіўшы агляд яблыні альбо апаўшага яблыка, вы знойдзеце шкоднікаў і г. д. Выявіўшы гэта, ваш гурток юных натуралістых альбо зьвяно піонэрскага атраду можа павесьці барацьбу з гэтымі шкоднікамі.

Многа цікавага можна даведацца пра жыцьцё расьліны. Панаглядайце, як розныя расьліны растуць, як ідзе разьвіцьцё пупушынак, лісткоў, красак.

Вы, напэўна, кепска яшчэ ведаеце, якія расьліны жывуць у лесе, у полі на балоце, сенажаці, на пяскох. Пазнаёмцеся з імі і выявіце, чым яны адна ад другой адрозьніваюцца. Калі вы вялікія ахвотнікі пагаспадарыць, давайце зробім свой невялікі агарод альбо прывядзем у парадак запушчаны. Наша задача вырасьціць многа добрай гародніны, сабраць многа яблыкаў, груш альбо смачнай маліны і г. д., значыцца, мы павінны паставіць вопыты з пасевамі і пасадкай насеньня ў розных умовах, прарабіць вопыты з розным доглядам за нашымі культурнымі расьлінамі. Лепшыя вопыты перанесьці ў гаспадарку.

Гурткі юных натуралістых, якія арганізуюцца пры клюбах, школах, атрадах—з піонэраў і неарганізаваных дзяцей, за гэтую работу павінны ўзяцца.

Ніжэй паказваецца, некатарыя патрэбны прылады (і як самомуіх зрабіць) дзеля таго, каб заняцца справаю нагляданьня над прыродаю.

## МАЕШ ЧАС—ПАПРОБУЙ ЗРАБІЦЬ.

### Сачок.

Галоўная частка сачка—мэталёвы абруч, к якому прышыта палатно ў выглядзе мяшка. Абруч робіцца з жалезнага або меднага дроту таўшчынёю ня менш 6-ці мілімэтраў. Для абруча можна выкарыстаць якую-небудзь старую спружыну альбо непатрэбны дрот і г. д. Як згінаць дрот, відаць на рыс. 1-ым А і Б. Канцы дроту павінны заходзіць адзін за другі, а паміж імі знаходзіцца канец доўгай палкі (гл. рыс. № 1, В.). Дрот павінен быць досыць пруткім для таго, каб абруч ня згінуўся ад невялікага націсканьня. Лепш за ўсё колца, якое-б мела ў дыямэтры 30 см. Канцы дроту заганяюцца ў палку, для гэтага іх трэба загастрыць напільнікам. Палка не павінна быць цяжкой і па даўжыні адпавядаць росту таго, кто будзе насіць сачок.

*Рыс. 1. Як згінаць дрот.*

Дзеля таго, каб колца трымалася на палцы, трэба канцы, якія прымацаваны да палкі, перавязаць тонкім дротам. У сачку, які робіцца для лоўлі жывёлаў у вадзе мяшок сшываецца з нятоўстай, але моцнай і рэдкай матэрыі, якая павінна вытрымліваць напор вады і хутка прапускаць ваду.

Для сачка, якім ловяць розных кузурак, патрэбна матэрыя вельмі мяккая, у якой не пацерліся-б невялічкія матылькі. Для гэтага падыходзіць добрая канва. альба цюль. Мяшок павінен быць досыць высокі і мець круглае дно (гл. рыс. № 2, А, Б, С). Сачок з гострым канцом мяшочка не падыходзіць



*Рыс. 2. Сачкі: а—правільны, б і с—няправільныя.*

бо злоўлены матылёк, залезшы ў самы канец яго, можа папсавацца.

Сеткі з канвы, цюлю і іншай тканіны прышываюцца ня проста к абручу, а разам з падкладкай з палатніны, каб мацней было. Для сачка, які мае дыямэтр колца ў 30 сантымэтраў трэба кавалак матэрыі даўжынёю, прыкладна, у 95 сант. і шырынёю ў 55 сант.

Мэталёвы абруч, перш чым прышываць к яму мяшок добра было-б вымазаць масьлянай фарбай для таго, каб ён не ржавеў.

## Папка для збору расьлін.

Гэта проста два лісты кардону, паміж якімі ляжыць запас сушыльнай паперы, так што атрымоўваецца накшталт кніжкі. Цераз кардон трэба прашыць шнурок, які-б вольна хадзіў у прарэзах.




*Рыс. 3. Папка для збору расьлін; шнурок вольна ходзіць у прарэзе.*

Кніжкі можна зрабіць таўсьцей і танчэй, у залежнасьці ад ліку лістоў паперы. Канцы шнурка сшываюцца, і гэту папку, як торбачку, можна насіць церас плячо (гл. рыс.). Папку можна зрабіць рознай велічыні, адрэжце лісты кардону па 50 сант. даўжыні, 40 сант. шырыні —гэта самы вялікі разьмер папкі.

Можна зрабіць папку меншую—45×30 сант., такую больш зручна насіць з сабой. У папку кладзецца папера для высушваньня расьлін. Лепшая папера для сушкі—фільтравальная, самая тоўстая і танная папера. Яе можна купіць у аптэкарскім магазыне. Трэба глядзець, каб папера была не глянсавая, а шурпатая, і лёгка прапускала-б ваду.

Расьліна на экскурсіі асьцярожна выкапваецца разам з коранем (альбо з галоўнымі яго часткамі) і кладзецца ў папку паміж двума лістамі сушыльнай паперы. Пры гэтым апісваецца дакладна, дзе выкапана гэта расьліна. Сьцябло, лісьце і карэньні расьліны трэба пры гэтым асьцярожна палажыць у папку.

## Скрынка для збору кузурак і дробных жывёл.

Гэта скрынка патрэбна для таго, каб прыносіць з экскурсіі ў жывы куточак жывых жывёл і кузурак. Яе лепш за ўсё зрабіць з плоскай бляшаной скрынкі ад цукерак, гарбаты.

У двух сьценкэх скрынкі трэба прарабіць па два надрэзы і працягнуць у іх вяроўку альбо што-небудзь іншае, каб можна было скрыначку насіць церазплячо. У вечку скрынкі трэба зрабіць некалькі невялічкіх дзірак для таго каб жывёліна, пасаджаная ў скрынцы, магла-б дыхаць сьвежай паветрай. Гэтыя дзірачкі зашываюцца якой-небудзь сеткай, каб дробныя кузуркі не маглі-б адтуль вылятаць. Саджаць па шмат жывёлін ня раіцца, бо некаторыя з іх могуць загінуць. Лепш за ўсё саджаць іх у невялічкія скрыначкі і пасьля ўжо складаць у вялікую скрынку.

## Прэс для сушкі расьлін.

Прышоўшы з экскурсіі, трэба пералажыць расьліны для далейшай сушкі з папкі ў прэс. Прэсам могуць быць 2 дошкі з 2-ма лістамі паперы, якія кладуцца паміж імі. Расьліны кладуцца паміж лістамі, а зьверху на дошку кладуць 2 цагліны. Ня цяжка самому зрабіць добры прэс для сушкі расьлін, які будзе складацца з 2-х драўляных рамак, на якія нацягнута мэталёвая сетка альбо проста пераплецены дрот. Паміж гэтымі рамкамі кладуцца лісты паперы з расьлінамі, якія вы хочаце засушыць, і ўсё моцна зьвязваецца якой-небудзь вяроўкай.

## Самаробны аквварыум.

Калі ў вас маюцца некалькі бутэлек альбо скрынак ад вареньня, ці шклянак—вы ўсё можаце гэта прыстасаваць для акварыуму. У бутэльцы трэба адрэзаць горла. Робіцца гэта такім чынам: абкруцеце бутэльку там, дзе вам трэба рэзаць, тонкім мяккім шнурком, прамачэце яго дравесным альбо дэнатурыраваным сьпіртам (можна бэнзынам альбо газай: у апошнім выпадку важна, каб газа змачыла толькі шнур) і запалеце шнур. Трымаючы бутэльку паземна, паварачвайце яе на восі, пасьля чаго хутка апускайце ў ваду. Бутэлька трэсьне па лініі шнура. Краі шклянкі з бутэлькі трэба абгладзіць напільнікам альбо цаглінай.

Палажэце на дно скрынак добра прамыты пясок (покуль ён ня стане даваць муты), уваткнеце ў яго па некалькі галінак вадзяных расьлін, і акварыум гатоў (гл. рыс. № 4). Наліваецца вада і садзяцца




*Рыс. 4. А—пляшка з павязаным шнурам, Б—краі абрэзаны няроўна, В—краі абгладжаныя. Гатовы акварыум.*

расьліны (элодзея альбо вадзяная чума). Гэту расьліну можна найсьці ў балотах альбо рэках. У такіх простых акварыумах могуць жыць усе вадзяныя жукі, клапы, вадзяны скорпіён і інш., а таксама маладыя рыбы, гальцы, пяшкуры, карасі і ліні.

**В. Грабеншчыкаў.**

# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Як мы даглядалі галубоў.

Узімку мінулага году мы купілі пару галубоў. Яны знаходзіліся ў кляпах (хатка дзеля галубоў). З прыходам вясны галубы пачалі рыхтавацца класьці яйкі. Яны зрабілі з сена гняздо для самкі.

10 і 11 красавіка самка палажыла ў гняздо 2 яйкі: адно было большае, чымся другое.

*Як галубы грэюць яйкі?* Галубы ня так грэюць яйкі, як, напрыклад, курыца. Галубы робяць гэту работу ўдваіх. Спачатку сядзіць самка, а самец лётае за ядою, потым садзіцца на яйкі самец, а самка здабывае яду. Каб яйкі былі роўна на ўсе бакі нагрэты, іх пераварчваюць з аднаго баку на другі. Праз два з паловай тыдні яйкі ўжо чуць-чуць наклюнуцца. Праз 17 дзён з яек павінны выйсьці галубяняткі. Бывае, што галубы выходзяць і праз 3 тыдні, як і кураняты.

Праз пэўны час мы ўбачылі, што яечкі чуць надзёўбаны. Гэта там ужо былі жывыя галубы, якія карміліся жаўтком яечка. Першага мая мы ўбачылі ў будцы адкінутыя ў бок лушпінкі і голых галубянят. Першыя два дні іх кармілі бацькі.

*Як галубы кормяць галубянят?* Падлятае адзін з галубоў і адчыняе дзецям раты, а другі голуб у гэты час кідае ім у рот кускі яды.

Больш тыдня маладыя галубяняткі ня рухаюцца з месца, на 7 дзень іх цельцы абрастаюць пухам, а на дзесяты дзень яны пачынаюць поўзаць на жыватох.

*Як іх вучаць лятаць?* Дзеля гэтага ў іх гнязьдзе трэба панабіваць уздоўж палачак. Паралятаючы па гэтых палачках, яны хутка навучацца лятаць. Калі гэтага не зрабіць, дык яны могуцьываліцца з сваёй будкі на зямлю.

*Чым кормяцца галубы?* Малыя галубы кормяцца маленькімі кавалачкамі хлеба і просам—гэта ім лягчэй усяго глытаць. Дарослыя галубы кормяцца таксама хлебам, просам, жытам і інш. Калі адзін вывадак галубоў падрасьце, тады дарослыя зноў пачынаюць класьці яечкі.

Каб добра гадаваць галубоў, трэба:

1. Больш трымаць іх на дварэ.
2. Ня трымаць у руках.
3. Не палохаць іх.
4. Трымаць у чыстаце іх кляпы.
5. Кляпа павінна быць чыстая, вялікая, і ў ёй павінна быць шмат палачак, панабіваных уздоўж.
6. Прыкармліваць іх у дабавак к таму, што яны дабываюць самі.

**Варшал М.**

(М-чка Старобін, Слуцкае акругі).

## Чым жыве наш атрад.

Цяжкі шлях прайшоў наш атрад у сваёй працы з часу організацыі. А організаваўся ён яшчэ ў пачатку 1925 году.

Спачатку атрад быў пры Наркамземе. Шэф—Менскі райком рабземлесу—даваў сродкі, і праца атраду была лепш чым добраю. Меўся клюб, бібліотэка, працавалі розныя гурткі, займаліся зьвеньні, таму і рост быў такі вялікі, што праз месяц у атрадзе было 70 піонэраў. А пасьля... Як звычайна. Шэфу надаела даваць сродкі. Адабралі і клюб. Засталіся мы, як у чыстым полі. Працу летам праводзілі ў садзе, нават часткай увосень там займаліся. Тут вось і пачалі выходзіць з атраду. На адным з збораў атраду прысутнічала ўсяго 6 піонэраў!

Але-ж на гэтым ня спыніліся. Атрад прымацавалі да ячэйкі гідротэхнікуму, і праца атраду пачала наладжвацца.

### „Расьцем не па днях, а па гадзінах“.

Як толькі атрад перайшоў да ячэйкі гідротэхнікуму, 28 піонэраў зноў пачало наведваць зборы і зьвеньні атраду. Ня гледзячы на тое, што прымацаваньне адбылося ў сьнежні м-цы 1927 г., мы пасьпелі ўжо вырасьці на 12 чалавек. Амаль на кожным зборы савет атраду ставіць пытаньне аб прыёме. Цікава тое, што нават тыя піонэры, якія раней выйшлі з атраду, цяпер прыходзяць і просяць, каб іх зноў прынялі ў атрад. „Бачым, што атрад зноў добра працуе“,

кажуць яны. Самі піонэры ўгаварваюць сваіх сяброў, каб тыя ўступалі ў атрад.

**„Спорт“.**

Гурток наш, хоць і нядаўна арганізаваны, затое працуе добра. Кіруе гуртком комсамолец, які вельмі зацікаўлены гэтай працай. К дню Чырвонай арміі рабілі выступленьне на вечары студэнтаў, і ў выніку студэнты засталіся вельмі здаволены.

Лепш, чым усе нумары програмы, спадабалася!—казалі яны.

**Мы гатовы да лягеру.**

Перш-на-перш піонэры пачалі зьбіраць грошы сярод комсамольцаў і беспартыйных студэнтаў.

Комсамольцы, як па конкурсу, стараліся ўкінуць у лягерную скрынку як мага больш.

А сакратар ячэйкі і старшыня профкому нават па 50 кап. укінулі! Акрамя гэтага, на адным з вечароў студэнтаў атрад арганізаваў вешалку, і ў выніку зарабілі 11 р. 50 кап. Усяго-ж мы маем каля 20 руб. грошай на лягер. Неўзабаве мы думаем зрабіць лётарэю на карысьць лягеру.

**Насьценгазэта.**

Насьценгазэта выходзіць акуратна кожны месяц. Яна зьяўляецца сапраўдным памоцнікам у працы савету. Калі зьбіраліся грошы для лягеру, дык праз газэту піонэры рабілі выклік іншым піонэрам. Яна асьвятляе ўсе бакі працы атраду.

Ня так даўно рэдколегія абвясьціла конкурс на лепшыя прыпеўкі з жыцьця атраду, вынікі якога будуць хутка абвешчаны. У газэту піша не адна рэдколегія, як звычайна бывае, а ўсе піонэры.

**З чырвонаармейцамі падтрымліваем сувязь.**

Яшчэ летам зьвязаліся з 6 палком. Чырвонаармейцы наведвалі нашы зборы, нашы прадстаўнікі хадзілі ў полк. Шмат гутарак і вайсковых ведаў прынесьлі нам чырвонаармейцы. Зараз рыхтуемся сумесна з ячэйкай да экскурсіі ў полк.

**Ячэйка—наш лепшы памоцнік.**

Што толькі можна, ячэйка робіць, каб дапамагчы нам у працы. Робіцца, напрыклад, які-небудзь вечар—ячэйка гатова ўкараціць сваю програму, каб даць магчымасьць выступіць атраду. Ячэйка-ж паклапацілася і аб тым, каб падрыхтаваць піонэраў да перадачы ў КСМ. Ячэйка вядзе вучот наведваньня старэйшымі піонэрамі сходаў ячэйкі. К юбілею атраду (які адбудзецца ў сакавіку м-цы) мяркуецца перадаць у камсамол 4-х піонэраў.

**Вечары атраду.**

Дзякуючы таму, што ў нас свайго клюбу няма, вечары прыходзіцца праводзіць сумесна з ячэйкай і студэнтамі. Усё-ж значную частку програмы даюць піонэры: хор, дэклямацыю, балет і інш. На вечарох прысутнічаюць усе піонэры.

**Агульны недахоп.**

Гэта тое, што няма клюбу. Прыходзіцца займацца ў памяшканьні тэхнікуму. Часта няма дзе праводзіць заняткаў, няма дзе вывесіць плякатаў і нават газэты.

**А Кучар.**

# За вывучэньне краіны.

У мінулым годзе ў нашай школе быў арганізаваны пры дапамозе настаўнікаў і вучкому краязнаўчы гурток. Вучні амаль усе запісаліся ў гэты гурток.

Праўда, гэты гурток для вучняў быў зусім новым, і ў працягу працы часта сустракаліся недахопы, але ўсё-ткі праца ішла: вучні зьбіралі закаранелыя беларускія словы, казкі, легэнды, расказвалі аб цікавых нагляданьнях за прыродай, за дзікімі зьвярамі, птушкамі і г. д. Усе цікавіліся гэтай працай; ня было аніводнага нумару насьценгазэты, каб хто-небудзь не напісаў аб гуртку. Але вучні паехалі на летні адпачынак і аб працы па вывучэньню краю зусім забыліся.

Увосень сабраліся зноў у школу, але аб працы краязнаўства ні настаўнікі, ні вучні не падумалі. Праца цяпер, бязумоўна, заняпала.

Не мяшала-б гэтую карысную працу аднавіць. Гэта нас навучыць уважліва сачыць за жыцьцём краю і добра яго вывучыць.

(Петрыкаў).

**А. А. Дашкевіч.**

## Вінаваты шэф і ячэйка.

Чаму ў нашым атрадзе дрэнная праца? А таму, што ў нас, напрыклад, няма ні лыжаў, ні канькоў, ні калавроту. Каб гэта было, дык мы організавалі-б добра свой вольны час.

Як комсамольская ячэйка, так і наш шэф не даюць нам на гэтую справу грошай. Піонэры, насы павесіўшы, чакаюць, пакуль ім дадуць грошы.

(Менск, атрад пры МББ ч.). **Я. Есьман.**

## Піонэры павінны дапамагчы.

Партыя і савецкая ўлада цяпер шмат аддаюць свае працы на распаўсюджаньне сялянскай пазыкі. Гэта пазыка зьбіраецца ад сялян для сялянскай-жа карысьці: усе сабраныя грошы пойдуць на ўзмацненьне сельскай гаспадаркі нашага Саюзу. За гэтыя грошы савецкая ўлада зможа асушыць шмат балот, нарабіць шмат патрэбных вёсцы с.-г прыладаў, якія цяпер каштуюць дорага і якіх зусім не хапае і г. д. Але аб гэтым усе ведаюць. Усе сьвядомыя сяляне ўжо нават выканалі свой абавязак перад дзяржаваю—па магчымасьці падпісаліся на заём сельскай гаспадаркі.

Ад сялян шмат дзе не адстаюць і дзеці, у першую чаргу піонэры і школьнікі. Па капейках складаюцца яны і купляюць аблігацыі.

„Нашы піонэры,—піша дзяткор **Лісоўскі** з Вільшчынскага атраду, Койданаўскага р.,—сабраліся па некалькі капеек і купілі пяцёхрублёвую аблігацыю. **Мы заклікаем зрабіць гэта і ўсе атрады!**"

Іншыя атрады ня толькі адбываюцца тым, што самі падпісваюцца на пазыку; яны горача растлумачваюць бацьком сваім аб значэньні пазыкі. Аб такой працы атраду расказвае піонэр **Іваноў** з Хвашнянскага атраду Віцебскай акругі.

„Мы покуль што падпісаліся атрадам на 2 р. 50 к. Калі зьбярэм больш грошай, падпішамся тады яшчэ. Цяпер мы праводзім гутаркі з сваімі бацькамі сялянамі аб падпісцы і дабіваемся таго, каб яны добра зразумелі значэньне падпіскі і па магчымасьці ўсе падпісаліся».

Аднак шмат якія атрады робяць ня так. Ці то па нядбайнасьці павадыроў і асобных піонэраў, ці то таму, што піонэры яшчэ не зразумелі паважнасьці гэтае справы—падпіска сярод іх не пашыраецца.

„Піонэры атраду імя Варашылава з Чырвона-Слабодзкага сельсавету сабралі грошы на падпіску аблігацыі. Сабралі... не падпісаліся. Заместа аблігацыі зьбіраюцца купіць бубен ці што іншае!"—піша наш дзяткор **П. М.**

Такіх прыкладаў нядбайнасьці маецца шмат.

Нашы атрады павінны **больш сур'ёзна заняцца пашырэньнем пазыкі.** Трэба больш праводзіць працу сярод сялян і сваіх бацькоў, у першую чаргу за пашырэньне падпіскі на пазыку. **Няма ніводнага піонэра, які-б што-небудзь конкрэтнага і карыснага не зрабіў для распаўсюджваньня сялянскай пазыкі!**—гэткі кліч нашы піонэры павінны як найхутчэй ажыцьцявіць.



# МЫ ПРОТЭСТУЕМ СУПРОЦЬ ЗЬДЗЕКУ.

**Дыктатар Польшчы Пілсудзкі ўсімі мерамі імкнецца прыдушыць голас аб волі працоўных Заходняй Беларусі. Увесь працоўны сьвет абураны супроць нячуваных зьдекаў над Бел. Грамадой.**

У Польшчы зараз адбываецца вялікі процэс над Грамадой. Фашысцкі ўрад Пілсудзкага, пасадзіўшы на лаўку падсудных лепшых прадстаўнікоў Грамады—гэтай масавай організацыі беларускага сялянства, фактычна робіць суд над усім беларускім насельніцтвам у Польшчы.

Буржуазія, адчуваючы сваю пагібель, рыхтуе новую вайну супроць СССР. Усялякі рэволюцыйны рух перашкаджае гэтым плянам. Вось чаму Пілсудзкі ня можа спакойна глядзець, як організоўваецца і расьце рэволюцыйны рух, уцягваючы ў яго вялікія масы забітага беларускага насельніцтва.

Грамада — сялянская організацыя, зараз разагнана. Да разгрому яна ў сваіх шэрагах налічвала каля 100 тысяч сяброў. Дзеля разгрому гэтае організацыі буржуазія пусьціла ў ход усе сродкі: налёты на сялянскія сходы, провокацыі, арышты, пабоі кіраўнікоў і пасьля абвяшчэньне Грамады падпольнай партыяй.

Зараз няма тае воласьці, вёскі, якая ня мела-б сваіх прадстаўнікоў з організацыі Грамады ў польскіх турмах.

Польскія турмы ў сваіх сьценах зараз налічваюць каля 6.000 політ. зьняволеных. Такім шляхам капітал прачышчае сабе дарогу.

Але такім шляхам рэволюцыйны рух ім ня ўдасца задушыць!

Мы—БЯРЭЗІНСКАЯ ОРГАНІЗАЦЫЯ Юн. піонэраў сумесна з неорганізаванымі дзяцьмі—выносім з абурэньнем свой протэст супроць таго гвалту, які адбываецца ў Польшчы над працоўнымі—сялянствам і рабочымі. Фашысты стараюцца не дапусьціць да выбараў усіх працоўных. Польскі буржуазны друк стараецца змаўчаць аб процэсе, які адбываецца над Беларускай Грамадой. Прэч ганебны суд над бязьвіннымі членамі Беларускай Грамады!



Расправа Пілсудзкага.

Прэч зьдзекі над працоўнай моладзьзю ў Зах. Беларусі!



## АКЦЯБРАТАМ ДЛЯ ЧЫТАНЬНЯ.




# СНЫ ЗАЙЦА

Замяла завея
Белая ды злая
Поле і лясы...
Сьпіць пад гальлём елак
Ў лесе шэры заяц,
Сьвішча ў нос, касы.
Ўсе цяпер на печы,
А яму дык нечым
Плеч пагрэць сваіх.
Толькі вецер сьвішча...
Справіў ён ігрышча
Ў хвалях сьнегавых.
Вось і сьніцца зайцу
(Нібы гэта ў байцы)
Разьдзівосны сон:
Нібы на прывольлі
Поле—ўжо ня поле.
І ня заяц ён...
Нейкім дзіўным чынам,
Неякай прычынай
Стаў ён—селянін!
І ў кажусе-хутры
Едзе ён на хутар
На сваім кані.
А які-ж ён грозны!
А які сурьёзны!
З роту—нейкі дым.
Цёпла яму й шчасна,
Толькі крыкне часам:—
„Ну, баржджэй, гняды!“
Конік-жа рахманы,—
Ой, які слухмяны!—
Пойдзе ўраз трушком.
Едзе ён ды едзе
Па праклятым сьледзе
На санях бачком.
Вось праехаў поле,
Ўзьехаў на пасёлак—
Тут двары, сады,
Колькі ў гэтых праслах
Сустракаў ён часам
Гора ды бяды!..
Вось у гэтых гумнах,
Ціхіх ды задумных,
Каля тонкіх сьліў
Сволачам Мікітам
За капусту біты
Ён калісьці быў.
Тут вось у Міцюхі
Грыз ён з галадухі
Яблыкі ў садку...
Ой было ня мала
Як тады папала
Прутам па баку!..
Эх, ды лепей кіну
Ўспамінаць, як гінуў
Ад зьвяроў, людцоў,
Бо ўжо стаў цяпера
Я ня шэрым зьверам,
Ня дурным зайцом.
Засьцягнуў ён хутра
Ды паехаў хутка
З замяці-гары.
Ад тугі-назолы
Плюнуў на пасёлак,
На садкі-двары.
Едзе ён, мінае
Поле-клін за гаем,
Сум разьбіўся ўшчэнт.
Вось ужо і хатка...
Зірк ў вакно—аладкі
Жонка там пячэ.
У вакно рукою
Сына за сабою
Кліча ён на двор.
Хлопец выбягае,
Гнедку распрагае
Ды вядзе ў хлявок.
Сам стары сьпяшае
Ў хату ды чакае
Шамоўкі даўно.
На сале па густу—
Каша ды капуста
І капа бліноў.
Міску зьеў, другую...
Жонка ўсё частуе:
— Еж! нябось, замёрз!
Грэецца памалу,
Ажно пот папёр.
Зьеў ды на палаці...
Стала ціха ў хаце.
Грэе кожны кут.
Сын сядзіць на лаўцы
Падплятае лапці
Бацьку-старыку.
Сьпіць ён, засыпае,
Думка йдзе, мінае,
Нельга знаць аб чым.
Раптам... штось зрабілася,
Нібы столь
Звалілася...
Ой, пяском засыпала,
Рожкамі зарыпала.
Валіцца кулём...
Ложкі, крошкі, вугальлё...
— Стой...—крычыць ён,
стой!—
Але тут ставінаю,
Нейкаю ламінаю
Яму поўху—хлоп!
Ўстаў, прачнуўся заяц.
Замець вакол, замець.
Стогнуць верасы.
— Дзе бліны, аладкі?
Дзе палаткі, хатка?
Дзе канёк, дзе сын?
Каб ты правалілася!
Гэта-ж мне прысьнілася.

**Астапенка.**





# ЯНКАВА ПАКАЯНЬНЕ.

Прышоў раз Янка са школы. Паабедаў і борзьдзенька пабег з санкамі на гару. Гуляў і коўзаўся Янка з дзяцьмі ледзь нё да самага вечара. А ўвечары ўзяў лемантар і пачаў чытаць.

Лемантар у Янкі брудны, памяты, бо Янка абыходзіцца з ім вельмі дрэнна. Вось і цяпер— пачытаў крыху Янка і пачаў маляваць на лемантары малюнкі алоўкам і рабіць подпісы. Потым захацеў Янка спаць. Кінуў ён лемантар на лаўку, лёг на ложак і заснуў.

Раптам бачыць Янка, што ўстае яго лемантар і ідзе да яго. І бачыць ён, што ў лемантара быццам ёсьць і рукі і ногі і што лемантар увесь мурзаты і адзеты ў брудную кашулю. Падышоў лемантар да Янкі, сеў каля яго і кажа:

„Паглядзі, Янка, які я брудны, памяты і абадраны. Я пасабляю табе вучыцца, чытаць і пісаць, а ты абыходзішся са мною вельмі непалюдзку. Ты перахінаеш мяне папалам, а гэта псуе мяне. Ты кідаеш мяне куды папала, і ад гэтага, бачыш, я ўвесь раскудлачаны і падраўся. Ты, Янка, кладзеш у мяне аловак, ручку, пёры. Ты робіш на мне подпісы і малюнкі. Паглядзі, якім ты зрабіў мяне. Я цяпер усё роўна, што хворы. А ці добра было табе, Янка, як ты хварэў? Ці добра мне, хвораму, пасабляць табе? Ня трэба быць гэткім дрэнным да свайго таварыша. Трэба з кніжкай абыходзіцца беражліва, бо кніжка твой сябар, Янка“.

Янку стала вельмі сорамна. Ён пачаў варочацца і... прачнуўся. Была ўжо раніца. Усхапіўся Янка і борзьдзенька паглядзеў на лаўку, куды ўчора кінуў свой лемантар.




...СЕЎ КАЛЯ ЯГО И КАЖА:
—ПАГЛЯДЗІ, ЯНКА, ЯКІ Я БРУДНЫ...

Глядзіць, а лемантар скінуўся пад лаўку, некалькі лісткоў з яго выкінулася і ляжаць на падлозе.

Саскочыў Янка, схапіў лемантар, паскладаў усе лісточкі. Сшыў лемантар ніткай, абвярцеў яго паперай і сказаў: „Цяпер, мой добры сябра, я буду абыходзіцца з табою вельмі добра. Дрэнны я быў хлопец, што гэтак псаваў цябе“. **А. Цітава.**

# ЯК ХТО ПІША АПАВЯДАНЬНІ*).

**Як разьмяшчаецца ў творах матар'ял.** У апошнія часы навука досыць ясна даводзіць, што пісьменьнік не нараджаецца пісьменьнікам, а становіцца ім. Гэты погляд будзе больш праўдзівы. Бо калі чалавек ня мае ніякага дачыненьня да літаратуры, няграматны—хіба ён што небудзь напіша? Ды яшчэ талковае? Ясна, што не! Праўда, з гэтага маюцца нязначныя выключэньні: мы ведаем такіх здольных няграматных апавядальнікаў казак, што з імі ня ўсякі пісьменьнік справіцца. Аднак, як правіла, у большасьці, аднаго жаданьня і шчырасьці аўтарскай мала. Трэба і ўменьне.

З чаго-ж у асноўным складаецца гэта аўтарскае ўменьне?

Яно складаецца з таго, што аўтар добра валадае прыёмамі разьмяшчэньня свайго матар'ялу, мовай і сынтаксам мовы (правільнае злучэньне слоў у групысказы). Гэта ў асноўным, гэта самае неабходнае вымаганьне ад таго, хто зьбіраецца пісаць нават простыя лісты ці допісы.

Прыёмаў для парадку вядзеньня апавяданьня вядома ў літаратуры шмат.

Асноўныя з іх:

1. Апавяданьне аўтар пачынае з канца падзеі і разгортвае яе да пачатку, як заблытаны клубок.

2. Апавяданьне аўтар пачынае з першых падзеяў, якія паслужылі прычынай ўсяго далейшага, аб чым расказваецца.

3. Апавяданьне можа разгортвацца ва ўсе бакі ад цэнтральнай падзеі і г. д.

Але ўсе гэтыя прыёмы імкнуцца да таго, каб будаваць падзеі, налыгваць іх адну за другой у стройны шнур так, каб кожная папярэдняя падзея выклікала цікавасьць у чытача, прымушала яго пачытаць і наступную частку апавяданьня. З гэтаю мэтаю апавяданьні і падзяляюцца на асобныя часткі, з аднолькавым характарам падзей.

Але гэтыя часткі толькі ўзмацняюць, дапаўняюць адна другую, паясьняюць чытачу аб тым галоўным, якое зьяўляецца прычынай усіх прычын.

Возьмем для прыкладу ўпамянутае ў мінулым нумары апавяданьне „Ножык". Першая частка яго знаёміць чытача з гэроем апавяданьня і яго прыгодамі з ножыкамі. У другой частцы гісторыя пачынаецца з канца. Аўтар адразу захвоціў чытача тым, што наперад сказаў некалькі слоў: „Як патрапіў да мяне, да бедняка, гэты ножык? Гэта вельмі сумная і захапляючая гісторыя. Слухайце ўважліва!"

І гэта гісторыя цяпер у стройным парадку, не сьпяшаючыся, льлецца радкамі апавяданьня да канца.

Гэты прыклад мы ўзялі таму, каб паказаць, што той, хто ўмее добра размеркаваць сваё апавяданьне, будзе карыстацца посьпехам: яго твор будзе чытацца з цікавасьцю.

Шмат хто з піонэраў пачынае пісаць так: „Янка ўбачыў піонэраў. Сам захацеў стаць піонэрам". А, далей, на працягу 15—20 стар., апісвае тое, як Янка запісваўся ў піонэры. Гэта гісторыя, пры няўмеласьці апавядаць, атрымліваецца досыць сумнай. Ніхто ня вытрымае для таго, каб прачытаць яе. Бо можна загадзя ад першых слоў здагадацца, аб чым будзеісьці рэч і.... нават чым скончыцца!..

Ніхто, бязумоўна, ня можа ўлажыць такога пляну, па якім лёгка, без запінкі, можна было-б напісаць тое ці іншае апавяданьне. Але такі плян аўтар павінен будаваць цікавым, прывабным, а не адпіхваючым ад сябе чытача.

Апавяданьні ж нашых юных аўтараў усе якраз пабудаваны досыць няўважліва з гэтага боку. Апавядаецца так, як каму ўздумаецца. Чытач зусім ня прымаецца пад увагу.

**Граматнасьць першая ўмова для аўтара.** У чым заключаецца граматнасьць пісьма?

Сюды трэба аднесьці дакладнае веданьне аўтарам мовы і законаў сынтаксу: уменьне правільна і верна выказваць свае думкі. Гэта вымаганьне самае просьценькае і самае патрэбнае. У шырэйшым сэнсе літаратурная граматнасьць мае і свае іншыя законы.

Вось маленькі прыклад. Адзін таварыш у сваім апавяданьні ў другім радку піша так: „Цішыня навокал яе (школы), ня чутна ні духу, ні слуху, а толькі дзіка гудзеў дрот ад слупоў і жаласна выла мяцеліца-завіруха". З боку граматыкі мовы

*) Гл. „БП" № 5.

яшчэ сяк-так, а вось гэта самая літаратурная граматнасьць і ўпушчана. Бо хіба-ж можа так быць сапраўды, што „калі сьвішча завіруха“, дык ля школы „ні слуху, ні духу“, гэтак ціха?

Ясна, што аўтар зусім ня думаў аб тым, што ён піша і для чаго.

Альбо вось няграматнасьць, якую бывае часамі цяжэй заўважыць: „Янка кожны раз не дасыпаў, і часта, заснуўшы каля сьвіней, атрымліваў добрага тумака“... (з апавяд. Ландарскага).

Як гэта ён мог, заснуўшы, атрымаць тумака? Тут аўтар па сэнсу хацеў сказаць, што атрымліваў тумака ён, калі засыпаў, пасучы сьвіней.

Дык вось, калі наляпіць такіх „тумакоў“ бязьмеры ў апавяданьне, тады зусім яго прачытаць ня можна будзе.

Зразумела, што гэта не загана, калі дзеці могуць дапускаць такія памылкі. Дзеля таго, каб ня мець такіх „тумакоў“, трэба, апрача навукі, напрактыкавацца граматна і верна пісаць, трэба шмат прачытаць кніг і прыгледзецца, як яны напісаны.

Калі адразу ні з таго, ні з сяго хапацца за пяро і жарыць з пляча апавяданьні—дарэмна патраціш час і сабе і рэдакцыі. Рэдакцыя сама ня можа за кожнага пісаць апавяданьні па тых тэмах, якія прысылаюць дзяткоры. Гэта ясна.

**Схэма апавяданьня, ці само апавяданьне.**

Ад таго, што шмат хто ня ўмее добра апрацаваць сваё апавяданьне, атрымліваецца найчасьцей толькі схэма апавяданьня. У гэтай схэме ўпамінаецца аб галоўных падзеях, жыцьці гэрояў, але... толькі ўпамінаецца.

Прыблізна такое апавяданьне будуецца па такім пляне: „Жыў быў хлопчык. Пасьля ён зрабіў тое і тое (напр., уступіў у піонэры). А далей яго за гэта матка біла. Хлопчык плакаў“ і г. д.

Гэта, бачыце, будзе просты пераказ зьместу. Для таго-ж, каб гэты пераказ стаў апавяданьнем, трэба на яго, як на канву, нашыць узоры. Узоры гэта само сапраўднае жыцьцё. Вось гэта „сапраўднае жыцьцё“ і перадаецца ў сапраўдных, літаратурна-вытрыманых апавяданьнях. Аўтар павінен умець каротка, ясна і жыва намаляваць перад вачыма малюнкі, сцэны, цэлыя падзеі таго, аб чым ідзе гутарка. Маляваць можна і словамі! Скажам, калі заместа таго, каб сказаць: ён уступіў у піонэрскі атрад, аўтар цікава і кароценька апіша гэты самы працэс—апошняе будзе куды лепш. Трэба заўважыць яшчэ і тое, як ён апіша. Калі дрэнна і нудна, калі нічога цікавага і характэрнага для гэтай зьявы аўтар ня дасьць—значыцца, апісаньне будзе дрэнным. Бо ня ўсё тое, што пішацца, называецца літаратурай і прыгожай. Пад літаратурай трэба разумець высока-мастацкія творы, якія адбіваюць у сабе, як у люстэрку, цікавыя і характэрныя зьявы жыцьця, якія ўключаюць у сябе пэўную тэму, што зьнітоўвае сабою паасобныя моманты, малюнкі зьяваў.

**Ці можна дапускаць аднабокасьць?**

Часта бывае і так. Зьмест добры—напісана дрэнна, няграматна. Напісана нішто-б сабе—зьмест дрэнны, зьбіты, стары, або й зусім няцікавы. А можа й так здарацца, што асобныя моманты перададзены досыць добра, а ў цэлым гэтыя моманты сьціраюцца, губляюцца. Апавяданьне такое робіць зусім слабенькае ўражаньне, а то й таго няма. Вось чаму высока-мастацкае апавяданьне ня можа дапушчаць ніякіх загана ў: і зьмест, і форма перадачы зьместу павінны быць строга вытрыманы, прыгожа адшліфаваны. На вялікі жаль, у часопісі мы ня маем магчымасьці шырока спыніцца на высьвятленьні пытаньняў літаратурнага характару. Больш падрабязныя тлумачэньні аб тым, што такое літаратурныя творы і як яны пішуцца, трэба чытаць у спэцыяльных кніжках.

**Як-жа ўсё-ткі памірыцца з жаданьнем пісаць?**

Гэта тое самае, што паставіць пытаньне: як-жа навучыцца пісаць, якія тэмы выбіраць для пісаньня?

Пакуль што ніхто яшчэ дакладна ня мог адказаць ні ў якой літаратурнай працы на гэта пытаньне? Гэта таму, што падобная навука не залежыць цалкам ад прыёмаў творчасьці, а і ад здольнасьці чалавека добра расказваць. У гэтым разуменьні „добра“ якраз і заключаецца дасканалае веданьне таго, аб чым аўтар хоча расказаць і ўменьне цікава, талкова і граматна расказаць.

Жаданьне пісаць у нашай моладзі вялікае. Гэта ня дрэнна. Пісаньне шмат дапамагае разьвіцьцю і разумовых здольнасьцяй, і разьвіцьцю мовы, а ўсё гэта набывае вялікае значэньне ў агульным разьвіцьці моладзі.

Дрэнна толькі тое, што некаторыя таварышы крыўдзяцца на рэдакцыі, чаму не зьмяшчаюць іх твораў. Трэба ведаць, што пісаньне і друкаваньне—гэта дзьве вялікія розьніцы. Друкаваць можна толькі самае лепшае, а пісаць можна аб чым хочаш, што хочаш і як хочаш.

Да рэчы, варта ўпамянуць аб школьных мастацкіх часопісях. Такія часопісі павінны служыць першай школай для ўсіх і корэспандэнтаў і дзіцячых пісьменьнікаў. Там дзе такія часопісі ёсьць, уся творчасьць вучняў зьмяшчаецца на яе старонках, а праз гэта самае і праходзіць праз крытыку сваіх таварышоў—чытачоў.

Крытыка, думкі і заўвагі настаўнікаў і вучняў шмат могуць дапамагчы таму, хто жадае добра пісаць мастацкія творы.

**Якія апавяданьні прызнаюцца нягоднымі да друку.**

У канцы мы абмяжуемся толькі пералічэньнем тых апавяданьняў, якія прызнаны нягоднымі да друку на падставе таго, аб чым мы ўпаміналі ў артыкуле.

1) Няма шчасьця. 2) Янка піонэр. 3) Пастушок Петрык. 4) Як Міхась піонэрам стаў. 5) Брацік Лёва. 6) Споведзь. 7) Нешчасьлівы. 8) Не сьцярпеў пан. 9) Адплата. 10) У водпуск. 11) З жыцьця вясковага пастуха. 12) Малыя гэроі. 13) За помсту помстай. 14) Самаахвотнік. 15) Праз парог старое. 16) Апавяданьне дзядзькі. 17) На чыгунцы. 18) Янка піонэр. 19) Ня люблю. 20) Пад завываньне буры. 21) Манька наймічка. 22) Начныя гутаркі. 23) Зажылі пановаму. 24) Былое. 25) Бальшавікі. 26) Як вучыў Міхась чужую мову. 27) Анатолька. 28) На возеры. 29) На першы дзень вялікадня. 30) У буру соцыялізму. 31) На чырвоным рубяжы. 32) Бальшавік. 33) Начлежнікі. 34) Што бачыў лес.

**А. Я.**



# ШТО ЧЫТАЦЬ.

**Што шпарчэй.**—Апавяданьне *Спрэг-Мітчэль*, пераклала і скараціла *А. Савёнак*. ДВБ. Старонак 14, цана 40 к.

Апавяданьне разлічана на дзяцей-дашкольнікаў і школьнікаў першай групы. Асноўная мэта яго—гэта паказаць, што шпарчэй можа ляцець.—пачынаючы ад вала і канчаючы самалётам. Прыгожыя ў фарбах малюнкі А. Тычыны дапаўняюць сабой зьмест.




**Да апошняй хвіліны.**—Апавяданьне *Алтаева*. Выд. „Чырвоная зьмена“. Цана 20 к.

Гэта кніжка яскрава і зразумела для юнага чытача знаёміць з падзеямі Вялікай Французскай Рэволюцыі. У гэтай рэвалюцыі, як вядома з гісторыі, бралі ўдзел усе пролетары—і малыя і старыя.

У апавяданьні расказваецца аб тым, як гэройска змагаўся і памёр за рэволюцыю адзін з многіх юнакоў з парыскіх рабочых. Малюнкі агульнага соцыяльнага ўціску, беднасьці тагачасных французскіх рабочых і ўсіх бяздомных, беспрацоўных людзей, малюнкі самаахвярнай барацьбы за рэволюцыю і, урэшце, трагічны канец рэволюцыі разам з жудаснай расправай буржуазіі—вось аб чым апавядае ў сваёй кніжцы *Алтаеў*.

Кніжка выдана добра і будзе з прыемнасьцю чытацца дзецьмі сярэдняга і старэйшага ўзросту.

**Янка з Плушмян.**—Аповесьць *Барыса Пераса*. Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, старонак 72, цана 45 к.

У аповесьці добра абмаляваны жыцьцё і быт дзіцячай колёніі ў трудныя галодныя гады.

## Як добра скарыстаць лета?

На гэтае пытаньне ўсе атрады знойдуць адказ у кніжцы **„Піонэрская пляцоўка ў вёсцы“.** (Выд. „Чыр. Зьмена“, цана 15 к.).

У кніжцы падрабязна разказана аб тым, як кожны атрад можа сам у сваёй вёсцы ці мястэчку добра наладзіць свой адпачынак, організаваўшы для гэтага летнюю пляцоўку.

Усе атрады павінны дастаць і скарыстаць гэтую карысную і патрэбную ў іх працы кніжку.

# Аб усім патроху.

## Отэль-горад.

Нядаўна ў Чыкаго (Амэрыка) адчынілася вялізарнейшая ў сьвеце гасьцініца „Сьцівэнс-Отэль“, разьлічаная на 6.000 чалавек.

Отэль займае вялізны будынак, які ўзвышаецца над зямлёю на вышыню 25 паверхаў. Пад зямлёю маюцца яшчэ чатыры паверхі, дзе зьмяшчаюцца кухня, элект.-станцыя, склады правізіі, вугалю, м а й с т э р н і і г. д.

Колькасьць пасобных „нумароў“ у „Сьцівэнс-Отэле“ дасягае 3.000, прычым большасьць з іх мае ванныя пакоі. У іншых паверхах отэлю зьмяшчаецца некалькі сот магазынаў, дзе можна купіць усё, што падабаецца, пачынаючы ад насавой хусткі і канчаючы аўтамабілем. Отэль мае свой кінематограф на 800 месц, і вялізную залю для п а с я д ж э н ь н я ў і зьездаў, разьлічаную на 4.000 чалавек.



## Маторныя конікі.

Ці чулі вы калі-небудзь казку аб чобатах-борздаходах? Наш малюнак паказвае нешта падобнае да такіх „чобатаў“, толькі гэтыя „чобаты“ ня казачныя, а сапраўдныя. Вынайдзены яны нямецкім інжынэрам і ўяўляюць сабою звычайныя ролікі на трох колах, якія прыводзяцца ў рух невялікімі маторчыкамі. Гэтыя маторчыкі працуюць пры дапамозе асобнага газу—адэтылену. Ня гледзячы на сваю нязначную велічыню, такія маторныя ролікі могуць разьвіваць вялікую шпаркасьць. Заграніцай у шмат якіх гарадох з вуліцамі, пакрытымі асфальтам, можна бачыць на такіх коніках мужчын, якія сьпяшаюцца на службу і дзяцей, якія едуць у школы.

## Павук-тэхнік.

На поўдні востраву Мадагаскару (Афрыка) жыве на зямлі павук разьмерам у сантымэтр. Самец вядзе вандроўнае жыцьцё, а самка жыве у асобным доміку, які будуе сама без дапамогі самца. У гэтым доміку яна адкладае яечкі і выводзіць павучанят. Домік гэты ўяўляе сабою чарапашку сьлімака, якая падвешваецца павуцінай на досыць моцных павуціных нітках к галінам якога-небудзь кутка на вышыні каля 40 сантымэтраў над зямлёю. Дом у 35 раз цяжэй за павучыху.

Як-жа паднімае яна яго на гэткую вышыню?

Выбраўшы адпаведную чарапашку, павучыха спускаецца з галіны на павуціне, прымацоўвае канец яе да чарапашкі і паднімаецца зноў па гэтай-жа павуціне, выпускаючы ў той-жа час другую нітку павуціньня. Затым яна застаецца на галіне і чакае: падвойная нітка, высыхаючы, скарачаецца і чарапашка крыху паднімаецца. Тады павучыха зноў спускаецца да яе і прымацоўвае канец павуціны да чарапашкі і г. д.

Працуючы так бяз перапынку некалькі дзён, яна паднімае свой домік на патрэбную вышыню і затым пачынае яго аздабляць з сярэдзіны.

## Вага зямлі і чалавецтва.

У сучасны момант на земнай кулі жыве прыблізна 1.600.000.000 чалавек. Калі вагу кожнага чалавека лічыць у 60 кілёграмаў, дык вага ўсяго насяленьня земнае кулі складзе 97 мільёнаў тон, а вага нашай плянэты (зямлі)—6 сэкстыльёнаў*) тон, ці, іначай кажучы, зямля ў гэтульки разоў цяжэй за насельніцтва, якое жыве на ёй, у колькі вялізны шматпавярховы небаскроб цяжэй за каліва пяску.

Усё насельніцтва земнае кулі можна было-б сабраць і разьмясьціць ў 80.000 цягнікох па 50 вагонаў у кожным, ці, нарэшце, улажыць і ўпакаваць у вялізнай скрыні, кожная сьценка якой мела-б каля кілёмэтру ў даўжыню і вышыню.

*) Сэкстыльён—адзінка з 36 нулямі.

## Рыба, якая ўе гнёзды.



Называецца гэта рыба—э п і н э ф а л. Выбраўшы на дне зручны куток, яна пачынае цягаць сюды абрыўкі вадзяных траў, замацоўваючы іх на сьцябле падводнай расьліны. Некалькі гадзін працы,—і гняздо гатова. У гэткае „памяшканьне“ эпінэфал кладзе сваю ікру і хаваецца ў час небясьпекі. Гняздо захоўвае ікру і малькоў (маленькіх рыб) ад нападаў драпежных морскіх жывёл.

**Чытачы! Пішэце, што вас больш усяго цікавіць і што вы хацелі-б чытаць у аддзеле „Аб усім патроху“.**

**Цана 12 кап.**




## Жарты.

1. Прышла суседка і пытае малога:
— Што вашы дзяўчаты парабляюць?
— Шыюць.
— А матка?
— Пора і плача з іх работы.

2.—Ну і пагана-ж ты сьпяваеш,—кажуць слухачы сьпявачцы.
— Хоць пагана, але затое доўга.



*Праверце, ці роўналеглыя гэтыя лініі, што перасечаны рыскамі.*

## Птушкі і электрычнасьць.

Вы ведаеце, што брацца за голы дрот, па якім праходзіць электрычнасьць, няможна. У такіх разох ток можа забіць чалавека, нават і буйных жывёл. Здараецца, што іншы раз на вуліцы абрываецца электрычная праводка і тады ня толькі людзей, але і коняй, якія выпадкова дакранаюцца да дроту, адразу забівае токам. А калі так, дык чаму-ж птушкі спакойна садзяцца на такія правады? Мусіць і вам ня раз даводзілася бачыць такія выпадкі. Чаму-ж птушак не забівае ток?



## Як пераліць?

Вамі дадзены збан, у якім зьмяшчаецца 4 літры малака. Вам трэба падзяліць гэтыя 4 літры пораўну паміж 2-ма таварышамі, але ў вас маецца з пасуды яшчэ толькі 2 збаны: у адзін уваходзіць два з паловай літры, у другі паўтара літры.

Як-жа падзяліць 4 літры малака пры дапамозе толькі гэтых трох пасудзін. Прыдзецца, бязумоўна, некалькі разоў пераліваць малако з аднэй пасудзіны ў другую. Але як?

## Хто мацней?




На малюнку вы бачыце пяцёра дзяцей, якія з аднолькавай сілай крычаць. Рашэце задачу: хто мацней аглушае чалавека, які стаіць паміж імі: два хлопчыкі зьлева, якія знаходзяцца ў адлегласьці 2-х мэтраў ад вуха, ці тры хлопчыкі справа на адлегласьці трох мэтраў ад яго?

1-ая друкарня БДВ. Заказ № 1797. У ліку 3.600 Галоўлітбел № 888.